НА ШТО ЗАРОБЯЦЬ




ШКОЛЬНІКІ І СТУДЭНТЫ

СТАР. 4–5

ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

“СЛАВЯНСКІ БАЗАР”



СВАЁ АДЖЫЎ?

СТАР. 6, 8

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

08.06.12-13.06.12 г.


# ПУЦІН ПАДХАПІЎ ХВАРОБУ ЛУКАШЭНКІ

**У Мінску прэзідэнт Расіі «смуткаваў» з нагоды гаротнага стану «некаторых краінаў Еўропы». Але ўжо на наступны дзень гэтыя кпіны адгукнуліся навінамі з Масквы.**

## ТРЭБА ЗАГЛЯДВАЦЬ У ЛЮСТЭРКА

Перад тым, як крытыкаваць эканамічную палітыку еўрапейскіх дзяржаў, Уладзіміру Пуціну варта было б зазірнуць у люстэрка. Бо закідаючы іншым, што яны «не зрабілі своечасовых крокаў», кіраўнік РФ не заўважае бярвення ва ўласным воку.

Расійская эканоміка трымаецца з большага на прыбытках ад гандлю нафтай і газам. Размовы ж пра мадэрнізацыю, інавацыі ды іншыя перспектыўныя шляхі развіцця застаюцца толькі размовамі. У выніку нерэфармаваная эканоміка пачынае хістацца, як толькі кошты на энерганосьбіты ідуць уніз.

Гэтым разам нафта патаннела да 100 доляраў за барэль, і гэта адразу адбілася на Расіі. Тамтэйшы рубль пачаў імкліва губляць пазіцыі. Адразу папаўзлі чуткі пра дэвальвацыю: пра ейную непазбежнасць пасля выбараў даўно папярэджвалі незалежныя эксперты.

Вам гэта нічога не нагадвае? Дык вось яшчэ адна паралель. У маскоўскіх абменніках не хапае доляраў. Выглядае, нібыта Уладзімір Пуцін падхапіў ад Аляксандра Лукашэнкі «хваробу», эпідэмія якой пракацілася па Беларусі з сакавіка па кастрычнік мінулага году. І не факт, што ў расійскай эканоміцы хопіць імунітэту, каб беспраблемна пераадолець гэтую інфекцыю.




*Падрасце адзначна*

> “Пуцін і Лукашэнка проста папрацавалі на «карцінку»: кожны на ўласную ўнутраную аўдыторыю. Маўляў, вечнае братэрства «не разбіць, не спыніць, не стрымаць».

Далейшае развіццё падзеяў мае істотнае значэнне і для Беларусі, бо Масква зараз з’яўляецца асноўным донарам Мінску. Як заўважыў Пуцін, Расія за кароткі час выдаткавала каля 5 мільярдаў на падтрымку «моцнай і квітнеючай». Гэтыя грошы дазваляюць пакуль беларускаму кіраўніцтву імітаваць аднаўленне стабільнасці. Аднак неўзабаве спатрэбяцца новыя датацыі. А калі цяжкасці ўзнікнуць у самога спонсара, то наўрад ці ён будзе працягваць фінансаванне «беларускага эканамічнага цуду».

## ДЗЯЖУРНА-РЫТУАЛЬНЫ ХАРАКТАР

Наогул жа візіт Пуціна ў Мінск меў дзяжурна-рытуальны характар. З аднаго боку, новаабраны расійскі прэзідэнт засведчыў свае прыярытэты. Але ў сталіцы Беларусі ён быў, лічы, транзітам – прыбыўшы вечарам у чацвер, ужо ў пятніцу зранку адляцеў у Берлін.

Відавочна, што сур’ёзныя пытанні ў такім фармаце не вырашаюцца. Пуцін і Лукашэнка проста папрацавалі на «карцінку»: кожны на ўласную ўнутраную аўдыторыю. Маўляў, вечнае братэрства «не разбіць, не спыніць, не стрымаць».

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## ЯРМОШЫНА: ЗМЕНАЎ ВЫБАРЧАГА ЗАКАНАДАЎСТВА НЕ БУДЗЕ

**Маючыя адбыцца парламенцкія выбары ў Беларусі павінны прайсці адкрыта, свабодна і ў канкурэнтнай барацьбе.**

Аб гэтым 8 чэрвеня заявіў Аляксандр Лукашэнка ў ходзе рабочай сустрэчы са старшынёй Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзіяй Ярмошынай, перадае БелТА.

Аляксандр Лукашэнка нагадаў, што ў Пасланні беларускаму народу і парламенту ўжо выказваў сваю думку наконт правядзення будучай выбарчай кампаніі. Ён падкрэсліў, што выбары павінны прайсці адкрыта, свабодна і ў канкурэнтнай барацьбе.

«Я да гэтага часу лічу, што мы сёлета не павінны ні пад каго падладжвацца”,— падкрэсліў ён.

Па словах Лідзіі Ярмошынай, выбарчае заканадаўства напярэдадні парламенцкіх выбараў больш мяняцца не будзе, бо, папершае, гэта немагчыма па тэрмінах, а па-другое, такі падыход цалкам адпавядае рэкамендацыям АБСЕ аб непажаданасці рэформаў у гэтай сферы на працягу года перад пачаткам выбарчай кампаніі.

# НАКОЛЬКІ МЫ ЎКАЛОЛІ ЗАХАД?

Нядаўні візіт Пуціна ў Беларусь дагэтуль ацэньваецца па-рознаму. У тым ліку і як перамога над Захадам. Ці так гэта на самай справе, высвятляла "Тут і цяпер".

**СЯРГЕЙ НІКАЛЮК, АНАЛІТЫК:**

### "НА ЛЁС БЕЛАРУСІ БУДЗЕ ЎПЛЫВАЦЬ ПАЛІТЫЧНЫ КРЫЗІС У РАСІІ".

— Наконт "шпількі" Захад, напэўна, і не здагадаўся. Гэта мы як прадстаўнікі маленькай краіны ўвесь час думаем аб тым, як на нас рэагуюць. Калі я жыў у Амерыцы, то разумеў, што ні адзін амерыканец не ведае, дзе знаходзіцца Беларусь. Даводзілася тлумачыць ім, што гэта "бітуін поланд энд раша". І тады яны, прынамсі, рабілі выгляд, што ўяўляюць, дзе гэта. Таму наконт нашых "шпілек" не трэба перабольшваць. Цяпер што тычыцца лёсавызначальнасці гэтай падзеі: палітычная эліта краіны пасля снежня 2010 года зрабіла свой палітычны выбар, і паслядоўна рухаецца ў рамках гэтага выбару. Таму мне цяжка ўявіць нейкую новую падзею, якая стане суперлёсавызначальнай. Іншая справа — тое, што пакуль схавана ад нашых вачэй. У Расіі разгортваецца палітычны крызіс. І сур'ёзныя аналітыкі (прычым, пракрамлёўскія) кажуць аб тым, што кропка невяртання ўжо пройдзена. І краіна ўжо ніколі не вернецца ў ранейшую сітуацыю. Сённяшнім лідарам Расіі яе не ўтрымаць. Пакуль гэта толькі пачатковы этап. Але вось гэта, безумоўна, будзе потым адбівацца на лёсе Беларусі. Як? Гэта ўжо іншае пытанне.

**АЛЯКСАНДР КЛАСКОЎСКІ, АНАЛІТЫК:**

### "У СВЕЦЕ ГЭТЫ ВІЗІТ НЕ ЗАЎВАЖЫЛІ".

— Падзеяй глабальнага маштабу гэты візіт выглядаў толькі ў адлюстраванні беларускіх дзяржаўных медыя. Тут, сапраўды, Пуцін зрабіў царскі падарунак, бо рэдка ўсё ж такі кіраўнікі вялікіх дзяржаў завітваюць у Беларусь (а Расія па-ранейшаму прэтэндуе на статус вялікай дзяржавы). І таму тут, натуральна, прапаганда трубіла на ўсю моц. Аднак, калі ўзяць нават расійскія медыя, то там асвятленне гэтага візіту было вельмі сціплым, і ніякага гістарычнага значэння яму не надавалі. І нават больш: прадстаўнікі крамлёўскай адміністрацыі ўсяляк падкрэслівалі, што яны кіраваліся найперш меркаваннямі лагістыкі, а не вялікай любоўю да беларускага кіраўніцтва, і нейкай асаблівай гістарычнай ролі яму не адводзяць. Тлумачылі, што далей Берлін, Парыж, таму спланавалі маршрут такім чынам. А што тычыцца сусветных медыя, то ўвогуле я пагледзеў, як заходнія СМІ асвятлялі гэтае турнэ Пуціна. Дык яны пра Беларусь фактычна не згадвалі — пачыналі адразу з Берліна. Вось і ўвесь адказ.

**АНДРЭЙ ФЁДАРАЎ, ПАЛІТОЛАГ:**

### "ГЭТА ТЭХНІЧНЫ ВІЗІТ".

— На мой погляд, нічога эпахальнага не адбылося. Захад гэта заўважыў, безумоўна, бо звярнулі ўвагу на тое, што першы візіт адбыўся не ў Кэмп-Дэвід, а ў Мінск. Але гэта такое нязначнае хваляванне. Тое самае і ў Расіі: яны ўспрынялі гэта як абсалютна звычайную з'яву, і ніякіх хваляванняў на гэты конт у іх таксама не было. Нейкія пытанні, безумоўна, падчас візіту былі вырашаны, але парадак дня той жа, што быў і раней. Мы ж не можам сказаць, што ўпершыню вырашылі будаваць АЭС. Гэта ўсё было, а зараз проста пацвердзілі фактычна. Так што, на мой погляд, гэта тэхнічны візіт.




*Цяпер на Захад лепш хадзіць з пазітыўнымі прапановамі*

**УЛАДЗІМІР ЛОЙКА, ПРАДПРЫМАЛЬНІК:**

### "МЫ ЯГО, ВЯДОМА, ОГО ЯК УКАЛОЛІ! АЛЕ ЁН ГЭТАГА НЕ ЗАЎВАЖЫЎ".

— Калі некаму падаецца, што візіт Пуціна — гэта падзея міжнароднага геапалітычнага маштабу, то ён вельмі памыляецца. Захаду пазіцыя Пуціна цікавая настолькі, наколькі дарагая нафта і наколькі паспяхова яна пампуецца. Больш нічога яму нецікава, гэтак жа, як лёс Хадаркоўскага і астатнія агульначалавечыя каштоўнасці. Беларусь для Захаду — гэта адрэзаны кавалак. На што яе намажуць і ў якім выглядзе — ужо тэхнічнае пытанне. Па інерцыі яшчэ нешта камусьці кажа, але па інерцыі. У цэлым жа гэтае пытанне закрытае. Уладзіміра Уладзіміравіча можна зразумець: яго ў Думе абражаюць, ніхто яго не любіць, прычым сам ён жыве ў такім цікавым свеце… Ён ваюе з усялякімі Навальнымі ды іншымі нягоднікамі з белымі стужкамі, але ён іх перамог і нават расплакаўся ў свой дзень перамогі. І пасля такой цяжкай перамогі куды хочацца паехаць перш за ўсё? У Вашынгтон? Хочацца ж заехаць да лепшага сябра, якіх ужо засталося няшмат. Не ў Сірыю ж…

Заснавальнік сеткі Фэйсбук Цукерберг на пытанне "Што збіраецеся купіць на сумленна зробленыя грошы" жартам адказаў: "Куплю якую-небудзь краіну кшталту Грэцыі". Купіць сабе Беларусь яму нават у галаву не прыйшло, таму ўсе гэтыя глабальныя думкі аб тым, ці ўкалолі мы Захад… Мы яго, канечне, укалолі, але ён гэтага не адчуў…

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**ДА ВЕДАМА**

### ПРЫГАДВАЕЦЦА КРЫЛОЎСКАЯ МОСЬКА

**Выбар Беларусі ў якасці першай краіны для афіцыйнага візіту прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна пасля інаўгурацыі — гэта відавочны жорсткі сігнал Захаду аб тым, што менавіта Беларусь з'яўляецца галоўным стратэгічным саюзнікам і партнёрам Расіі. Такое меркаванне выказаў у эфіры тэлеканала АНТ былы міністр замежных спраў і былы пасол Беларусі ў Японіі Пётр Краўчанка, каментуючы вынікі візіту кіраўніка расійскай дзяржавы ў Беларусь, паведамляе БелТА.**

# ПУЦІН ПАДХАПІЎ ХВАРОБУ ЛУКАШЭНКІ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Куды цікавейшае пытанне: што далей? Шмат хто з палітолагаў лічыць, што неўзабаве адносіны паміж Менскам і Масквой пахаладаюць. Сцэнар бачыцца такі: Расія паспрабуе прасунуць свае інтарэсы, Лукашэнка, як гэта ўжо неаднойчы было, адмовіцца ад раней узятых у кулуарах абавязацельстваў, і тады пачнецца высвятленне адносінаў на падвышаных танах.

Такі варыянт цалкам магчымы. Дастаткова ўзгадаць, што нават сутыкненне інтарэсаў у не самое галоўнай галіне прывяло да часовага спынення авіязлучэння паміж сталіцамі дзвюх дзяржаў, што лічацца хаўруснікамі.

Але ж, на нашу думку, больш верагодна, што ў агляднай будучыні Пуцін будзе выкарыстоўваць хутчэй пернікі, чым пугу. Пра тое сведчыць і згода выдзяліць трэці транш крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўразЭС, якую агучыў у Менску Пуцін, негледзячы на тое, што беларускае кіраўніцтва не выконвае ўмовы фінансавання, у тым ліку ў асабліва цікавым для расіян накірунку – прыватызацыі.

### ...МАЛА НЕ ЗДАСЦА

Расійскаму прэзідэнту, які шмат што паставіў на Еўразійскі Звяз, неабходна, з аднаго боку, забяспечыць лаяльнасць цяперашніх удзельнікаў гульні (у тым ліку Лукашэнкі), а з іншага, прастымуляваць далучэнне да новай інтэграцыйнай структуры іншых постсавецкіх краінаў. Таму скандалы Крамлю пакуль невыгодныя.

Аднак, калі расійская эканоміка ўсё-ткі зваліцца ў крызіс (а гэта толькі пытанне часу), то пра маштабныя праекты давядзецца забыцца. І рыкашэтам гэта так лясне па Беларусі, што мала не здасца.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

**У ТЭМУ**

## ОРДЭН ПАШАНЫ – 5 РАСІЙСКІМ ВАЙСКОЎЦАМ

**За заслугі ў развіцці міжнароднага ваеннага супрацоўніцтва паміж узброенымі сіламі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі пяцёра ваеннаслужачых Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі ўзнагароджаны ордэнам Пашаны, піша БелТА.**

Адпаведны ўказ Аляксандр Лукашэнка падпісаў 7 чэрвеня.

Узнагароды ўдастоены камандзір мотастралковага батальёна 21-й асобнай мотастралковай брыгады 2-й агульнавайсковай арміі Цэнтральнай ваеннай акругі падпалкоўнік Канстанцін Гапаненка і камандуючы 2-й агульнавайсковай арміяй гэтай акругі генерал-маёр Аляксандр Жураўлёў.

Ордэнам Пашаны ўзнагароджаны камандзір авіяцыйнай эскадрыллі авіяцыйнай групы 6972-й авіяцыйнай базы камандавання Ваенна-паветраных сіл і процідаветранай абароны Паўднёвай ваеннай акругі падпалкоўнік Аляксандр Канаваленка, галоўны інспектар-штурман штурманскай службы Упраўлення начальніка авіяцыі (Галоўнага камандавання Ваенна-паветраных сіл) Заходняй ваеннай акругі палкоўнік Анатоль Міняйла, камандзір гаўбічнага самаходна-артылерыйскага дывізіёна 6-й асобнай танкавай брыгады 20-й агульнавайсковай арміі (аператыўнага камандавання) Заходняй ваеннай акругі маёр Аляксандр Паўлышын.

# ЗА РАСІЙСКІМ РУБЛЁМ АБВАЛІЦЦА І БЕЛАРУСКІ?

Беларускія эканамісты з насцярожанасцю назіраюць за коштамі на нафту, а іх расійскія калегі ўпэўнены ў дзеяннях свайго Цэнтрабанка, сцвярджае euroradio.fm.



*На расійскі рубель зацыклівацца не выпадае*

Сярэдзіна мінулага тыдня была сумнай для расійскай эканомікі: кошты на нафту рэзка папаўзлі ўніз. Упершыню за некалькі гадоў яна каштуе менш за 100 долараў за барэль. Следам за нафтай пачаў таннець і расійскі рубель. Эканаміст Сяргей Чалы кажа, што для Беларусі гэта таксама можа стаць праблемай:

“Для нас гэта не вельмі добра. У нас жа асноўны экспарт, калі не лічыць сыравінны, ідзе ў Расію. Натуральна, што яго аб’ём будзе памяншацца ў пераліку на валютны эквівалент. І патэнцыяльна змяненне балансу на валютнай біржы можа прывесці да таго, што і наш рубель пачне слабець”.

Ёсць і перавагі. Чалы мяркуе, што нафтапрадукты — бензін і дызельнае паліва — таннеюць не так хутка, як нафта. Адпаведна, мы можам добра зарабіць на экспарце ў найбліжэйшыя месяцы.

Яшчэ адзін эканаміст, Леанід Злотнікаў, таксама прадказвае праблемы, у першую чаргу для такіх гігантаў, як МАЗ, МТЗ і БелАЗ.

“Імпарт для іх стане даражэйшым у знешнім гандлі. І гэта таксама негатыўна паўплывае на беларускую прамысловасць, асабліва на машынабудаванне. Ды і не толькі на яго”, — тлумачыць эксперт.

Злотнікаў прадказвае праблемы і ў сельскай гаспадарцы: беларускае мяса і малако для расіян падаражэюць. Ён таксама дадае, што прадбачыць сітуацыю на беларускім валютным рынку будзе складана: яна хісткая і небяспечная, а паніка ў насельніцтва можа ўзнікнуць у кожны момант, што зноў прывядзе да чэргаў за валютай каля абменнікаў, як было ў мінулым годзе.

А вось расійскі эксперт Мікіта Масленнікаў супакойвае: ён перакананы, што Цэнтрабанк возьме сітуацыю пад кантроль.

“Я думаю, што наш расійскі “Цэнтральны банк” у сярэдзіне тыдня вернецца з інтэрвенцыямі на рынак, — кажа М.Масленнікаў. — У канцы мінулага тыдня ён у мяккай форме тэсціраваў рэакцыю гульцоў, патраціўшы на гэта, паводле маіх ацэнак, 280 мільёнаў долараў”.

Масленнікаў дадае, што ваганні расійскага рубля пакуль што нязначныя, таму пра іх сур’ёзны ўплыў на расійска-беларускі гандаль гаварыць рана. Стабілізацыя курса адбудзецца ўжо праз некалькі месяцаў, і расійская валюта вернецца да ўзроўню 31 рубля за адзін долар, лічыць эканаміст.

Тым часам беларусы ўжо пацягнуліся ў банкі забіраць рублёвыя ўклады. Занепакоенасць выклікаў рост курса долара, што звязана з нізкімі коштамі на нафту.

**АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ**

# КОЛЬКІ МОГУЦЬ ЗАРАБІЦЬ ЛЕТАМ ШКОЛЬНІКІ ДЫЙ СТУДЭНТЫ

"Тут і цяпер" пацікавілася, ці супадаюць чаканні маладых людзей падзарабіць е вакацыі з беларускімі рэаліямі, і ці намнога зможа "падняцца" за лета руплівы шкаляр.

## РАБІ НЕ ХАЧУ

Летнія канікулы ў сучасных школьнікаў і студэнтаў праходзяць па-рознаму. Адны ўдарна "адпачываюць ад вучобы" за камп'ютарам ці на вуліцы, у летніках ці ў бабулі ў вёсцы. Іншыя ж не менш ударна рэалізоўваюць прымаўку "time is money" і зарабляюць гэтыя самыя мані, дзе толькі атрымліваецца.

Паводле заканадаўства, падчас канікул працоўны дзень 14–16-гадовых падлеткаў не можа перавышаць 4,5 гадзіны ў дзень, для 16–18-гадовых — не больш як 7 гадзін штодня, а плаціць ім працадаўца абавязаны па поўнай праграме — як за 8-гадзінны працоўны дзень. Зразумела, што брацца нават на самыя "заляжалыя" вакансіі школьнікаў і студэнтаў жадаюць далёка не ўсе.

З іншага боку, і цяперашнія старшакласнікі зусім інакш ставяцца да працы, чым калісьці іх бацькі, і тым больш бабулі з дзядулямі. "Некаторыя падлеткі прамым тэкстам кажуць: "Мне б такую працу, каб паболей плацілі", — ананімна падзялілася з намі супрацоўніца **аднаго са сталічных тэрытарыяльных цэнтраў занятасці насельніцтва**. — А што мы можам дзецям прапанаваць? Клумбы палоць, газеты разносіць…".

> "Думаю, будзе вышэйшая адукацыя рэабілітавана і ў нас. Міне час АМАПаўцаў, не можа ж ён доўжыцца вечна".

Сапраўды, у базе вакансій Мінгарвыканкама нам не ўдалося знайсці ні сезоннай, ні часовай працы для моладзі з базавай ці частковай адукацыяй, а ўладальнікі атэстата аб сярэдняй адукацыі могуць выбіраць хіба толькі паміж памочнікам выхавальніка, работнікам зелянбуда ды мыйшчыкам колб у НДІ, і тое на апошнюю вакансію школьніка наўрад ці возьмуць — умовы працы шкодныя.

Адшукаць 10–11-класнікаў, згодных заняць гэтыя працоўныя месцы і атрымліваць да 1,4 млн у месяц, нам не ўдалося.




*Студэнты гатовыя працаваць і гэтым, але…*

Самы непераборлівы з апытаных **"Тут і цяпер", 16-гадовы мінчук Валера**, прызнаўся, што з ліпеня ўладкоўваецца ў брыгаду раённага "Зелянбуда": "Я са шматдзетнай сям'і, таму грошы, якімі б яны ні былі, лішнімі не будуць. І рукі ў мяне з патрэбнага месца растуць. Касіць траву, палоць кветкі, абразаць кустоўе — нічога складанага, затое паўдня папрацаваў і вольны. А тыя знаёмыя, хто кажа, што гэта непрэстыжна, ну, няхай сабе далей на лавачцы піва п'юць".

"А для маёй дачкі галоўнае ў летняй падпрацоўцы не заробак, а адчуванне самастойнасці, — адзначыла маці **15-гадовай Алены**. — Яна ў мяне была такая спакойная, дамашняя, і пры гэтым яшчэ хваравітая дзяўчынка. А летась абсалютна самастойна, без майго ведама, пайшла за кампанію з сяброўкай працаваць прамоўтарам сотавага апаратара. У прынцыпе, што там — раздаваць рэкламныя паперкі ў буйных крамах, але яны былі на іншым канцы горада! Я запанікавала, а Ленка нічога, праклала па камп'ютары маршруты, сумку на плячо — і наперад. Праз месяц маё дзіця было не пазнаць: больш упэўненая ў сабе, усмешлівая, актыўная. Сёлета збіраецца зноў штосьці падобнае шукаць. Дык я толькі "за".

Сёлета ў сталіцы плануецца працаўладкаваць на лета 3170 школьнікаў — такую лічбу агучыла старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва Мінгарвыканкама Жанна Рамановіч на аператыўнай нарадзе ў сталічнай мэрыі http://minsknews.by/2012/05/21/58250. Акрамя ўласна школ і цэнтраў пазашкольнай работы, мінскія старшакласнікі змогуць праявіць сябе, напрыклад, у заапарку.

## "ХТО НЕ ПРАЦУЕ — ТОЙ ЕСЦЬ: ВУЧЫСЯ, СТУДЭНТ!"

Студэнтам крыху лягчэй — у іх больш і выбар заняткаў у "трэцім працоўным семестры", і памер патэнцыяльнага заробку. Дый памагатых у пошуку аплатнага месца пад сонцам — не толькі бацькоўскія ды сяброўскія сувязі і ўласныя сілы, а цэлы шэраг арганізацый, ад БРСМ да Моладзевай сацыяльнай службы і Лігі добраахвотнай працы моладзі. Прыкладам, як адзначылі ў Штабе працоўных спраў ГА БРСМ Белдзяржуніверсітэта, толькі ў гэтай ВНУ з дапамогай БРСМ "штогод працаўладкоўваюцца падчас летніх вакацый каля 1 тысячы студэнтаў". "Гэтым летам у Мінскай вобласці будуць працаваць больш як 100 студэнцкіх атрадаў", — рапартуе афіцыйны сайт арганізацыі.

"А што, — пагаджаецца **віцяблянка Паліна**, — трэба ж хоць некалі займець бонусы ад таго, што я "добраахвотна" знаходжуся ў БРСМ яшчэ са школы. Дзякуючы будатраду, я летась хоць на халяву за межамі сінявокай пабывала. Няхай сабе толькі ў Расіі, але нават туды выехаць на экскурсію проста са стыпендыі дорага. Таму сёлета я зноў запісалася ў атрад. Праўда, асабліва вялікіх грошай там не заробіш".

## БРСМ І ФАНФАРЫ

Між тым перад пачаткам сезона першы сакратар Мінскага гарадскога камітэта БРСМ Юрый Чачукевіч сцвярджаў, што сёлета ў будатрадах можна будзе атрымаць да 5 мільёнаў рублёў — больш чым сярэдні заробак па краіне. Але ўчытваемся ўважліва і робім папраўку на вецер: гаворка толькі пра студэнтаў сталічных ВНУ, толькі будаўнічы профіль студэнцкіх атрадаў і толькі лічаныя аб'екты кшталту новага будынка музея Вялікай Айчыннай вайны. Студатрадаўцам з іншых рэгіёнаў і іншых спецыяльнасцей разлічваць трэба на куды больш сціплыя сумы.

Спіс вакансій, прапанаваных БРСМаўцам у кожнай вобласці, засмучае яшчэ больш: у Мінску патрабуюцца медрэгістратары, прыбіральшчыкі, паштальёны, грузчыкі, кандуктары на зарплату ад 1 да 2,5 мільёна рублёў, у Гомелі — будаўнікі, прадаўцы, тэхперсанал на ЦТ, сельскагаспадарчыя і падсобныя рабочыя, якім абяцана ад 350 тысяч да 1 мільёна рублёў; у Гродне — перапрацоўшчыкі сельскагаспадарчай сыравіны, будаўнікі, прадаўцы, супрацоўнікі аб'ектаў агратурызму на заробак ад 1 да 2,5 мільёна рублёў.

"Зразумела, што браць нават на самыя "заляжалыя" вакансіі школьнікаў і студэнтаў жадаюць далёка не ўсе".

Самастойны пошук работы праз газетныя аб'явы ці адпаведныя інтэрнэтрэсурсы прыносіць аналагічныя вынікі: студэнтаў працадаўцы бачаць у якасці align рознарабочых, кур'ераў, менеджараўкансультантаў, прадаўцоў, прамоўтараў і іншых "падхватчыкаў" з заробкам ад 450 тысяч да 2–2,5 мільёна (выключэнне — хіба што таленавітыя праграмісты, якіх ужо з 2–3 курсаў "разрываюць" на часткі прывабнымі прапановамі). І ўсё ж нават 2 мільёны за месяц + новы працоўны вопыт — больш, чым сярэдняя стыпендыя, і лепш, чым пасіўная вера ў светлае заўтра, сцвярджаюць бывалыя студатрадаўцы. "Калі пачаць клапаціцца пра лета яшчэ ў лютым — красавіку, то можна выбраць са "смачных" прапаноў, а калі ў маі, то толькі з тых, што застануцца неразабранымі", — дзеліцца вопытам **4-курснік БДЭУ Ігар**.

**"А як вы падпрацоўвалі ў школьныя/студэнцкія гады?" — спыталася "Тут і цяпер" у…**

**…ЭКС-ПРАРЭКТАРА БДУ АНАТОЛЯ ПАЎЛАВА.**

"Не, я ўвогуле гэтага не рабіў, бо жыў дома. Да таго ж займаўся спортам, і ў мяне аб'ектыўна не было ў падпрацоўках ні патрэбы, ні часу. Але пазней, як усе,




*Сесія не самае страшнае*

ездзіў у студатрад. Успаміны засталіся вельмі добрыя, бо гэта была, па-першае, істотная матэрыяльная падтрымка, а падругое — праверка, хто чаговарты і з кім, як бы гэта банальна не гучала, можна пайсці ў разведку".

Да летняй падпрацоўкі былы прарэктар вядучай беларускай ВНУ ставіцца ў цэлым прыязна, а вось да пастаяннага сумяшчальніцтва вучобы і працы — адмоўна: "На мой погляд, вучоба — гэта асноўная праца студэнта, і трэба займацца выключна ёй. Хто б што не казаў, але студэнцтва — гэта будучая эліта краіны, яе кіраўнікі, навукоўцы, урачы, журналісты. І дзяржава, якая клапоціцца пра сваю будучыню, мусіць клапаціцца і пра студэнцтва, ствараць для яго адпаведныя ўмовы. У адной брашуры нядаўна чытаў, што Польшча неўзабаве апярэдзіць Германію па ўзроўні эканамічнага развіцця — проста таму, што палякі зараз вельмі актыўна інвестуюць у вышэйшую адукацыю. Думаю, будзе яна рэабілітавана і ў нас. Міне час АМАПаўцаў, не можа ж ён доўжыцца вечна".

**…СПЕВАКА АЛЯКСАНДРА САЛАДУХІ.**

"Яшчэ ў школе ў нас былі так званыя працадні — мы высаджвалі дрэвы, штосьці яшчэ рабілі. А ў свае студэнцкія гады (з 1976 па 1982, 3 курсы медуніверсітэта я скончыў у Карагандзе, а яшчэ 3 — у Мінску) пабываў у будатрадах і там, і тут. Добра памятаю 1980 год, будатрад "Рапсодыя" Беларускай кансерваторыі, дзе я быў урачом, і нашу паездку ў Малдавію на збор садавіны ды агародніны. Памідоры, агуркі, віно, і мне ўсяго 21 год, — летуценна ўзгадвае артыст. А ў 1982- — адразу пасля заканчэння ўніверсітэта, мы ездзілі ва Узбекістан будаваць жыллё атрадам "Шукальнік," камандзірам якога быў, між іншым, Аляксандр Шакуцін — цяпер кіраўнік "Амкадора". Укалвалі мы, безумоўна, як коні — з будаўнічымі насілкамі літаральна бегалі, пехатой не хадзілі. Затое і ўспаміны засталіся цудоўныя. Да таго ж я прывёз адтуль за 2 месяцы 1800 рублёў — гэта былі вельмі вялікія грошы. Параўнайце: мой бацька зарабляў 350 рублёў, па тым часе значны заробак".

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

**АФІЦЫЙНА**

**Паводле арт.272 Працоўнага Кодэкса РБ, заключыць працоўную дамову (чытай — працаўладкавацца) у нашай краіне мае права чалавек, узрост якога складае больш за 16 год. Зрэшты, з пісьмовай згоды аднаго з бацькоў дамову можа заключыць і 14-гадовы падлетак, з агаворкай "для выканання лёгкай працы, якая: 1) не з'яўляецца шкоднай для яго здароўя і развіцця, 2) не перашкаджае наведванню агульнаадукацыйнай установы і ўстановы, якая забяспечвае атрыманне прафесійнатэхнічнай адукацыі".**

# МІЛІЦЫЯНТ – АД 40 ДА 100 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ

## Але навошта плаціць за хуткую дапамогу, пажарную і міліцыю, якія і так прыедуць у выпадку бойкі, пажару ці здарэння?

*"У абавязковым парадку падпісваюцца дамовы на ахову грамадскага парадку з тэрытарыяльным упраўленнем унутраных спраў. Натуральна, выстаўляюцца супрацоўнікі міліцыі, якія нясуць адказнасць і ахоўваюць правапарадак на час правядзення масавага мерапрыемства. Гэта агульнапрынятая сусветная практыка",* — гаворыць **дырэктар канцэртнага агенцтва Уладзімір Шаблінскі**.

Аплата залежыць ад месца правядзення, часу і працягласці канцэрта, колькасці людзей.

*"Калі мы рыхтавалі Дзень Волі, то аплацілі і пажарную, і хуткую. Міліцыю не аплачвалі,* — распавядае адзін з арганізатараў масавых акцый Віктар Івашкевіч. — *Тады выдаткі склалі 6-7 мільёнаў рублёў"*.

Як даведалася Еўрарадыё, для аховы канцэрта з колькасцю наведвальнікаў да дзвюх тысяч чалавек і на пляцоўцы памерам менш за футбольнае поле спатрэбіцца каля 100 супрацоўнікаў міліцыі.

У мінулым годзе кошты былі ад 40 тысяч да 110 тысяч за супрацоўніка. Усё залежыць ад звання: за радавога кошт адзін, за маёра — іншы.

Возьмем у сярэднім 50 тысяч рублёў за чалавека — значыць, ахова падобнага канцэрта будзе каштаваць каля 5 мільёнаў.

*"У нас ёсць досвед заключэння дамоваў з рознымі тэрытарыяльнымі ўпраўленнямі ўнутраных спраў, калі сумы ваганіся ад 1 мільёна да 30 мільёнаў. Усё залежыць ад рангу і маштабу мерапрыемства",* — распавядае Уладзімір Шаблінскі.

Зразумела, што на буйным канцэрце з вялікай колькасцю народу — такім, напрыклад, як "Рок за баброў" — супрацоўнікаў будзе больш, і каштаваць будзе даражэй. Таму для падліку бярэм суму ў 20 мільёнаў рублёў.

Дадаем сюды 7 мільёнаў за хуткую і МНС — і атрымоўваем 27 мільёнаў (3250$) агулам за службы, якія ў прынцыпе мусяць прыехаць і бясплатна ў выпадку чаго.

Ці атрымоўваюць самі супрацоўнікі даплату з тых грошай, якія даюць арганізатары мерапрыемства?

**ВІТАЛЬ РУГАЙН**

# "СЛАВЯНСКАМУ БАЗАРУ" ПАТРАБУЕЦЦА РЭБРЭНДЫНГ

У хуткім часе пачне працаваць юбілейны, дваццаты, "Славянскі базар", які так і не стаў "адным з лепшых міжнародных конкурсаў маладых выканаўцаў". Чаму гэта адбылося, "Тут і цяпер" разважала разам з экспертамі.

## СВЯТА МЁРТВЫХ?

**Кампазітар і выканаўца ўласных песень акцёр Віктар Шалкевіч** лічыць, што "Славянскаму базару" не хапае "душашчыпальнасці".

*"Мне падаецца, што сёння гэты фестываль мала каму цікавы,* — выказвае свае думкі спадар Шалкевіч. — *І мне, напрыклад, незразумела, чаму гэты фестываль завецца славянскім. Таму што габрэям там няма месца? І калі яго назваць габрэйскім, то куды ісці славянам? А базар — гэта ўвогуле смешна".*

Будучыня віцебскага фестывалю Шалкевіча мала цікавіць.

*"Мне абсалютна нецікава, што далей будзе са "Славянскім базарам", бо гэта не маё мерапрыемства, не мой фармат,* — гаворыць ён. — *Я выхаваны на іншай музыцы, якая перадае нейкія пачуцці, на добрых тэкстах. А тое, што робіцца на "Славянскім базары", гэта свята мёртвых.*

*Фестываль павінен быць шчырым ад пачатку і да канца, альбо, як кажуць палякі, "душашчыпацельным". Калі "Славянскі базар" арганізоўвалі, мо нейкія добрыя намеры і былі, аднак цяпер гэтага не бачна. І ўвогуле, на мой погляд, гэты фестываль праходзіць міма большасці з нас. Ну і дзякуй Богу...".*

## АД ПЕРАМЕНЫ АРКЕСТРА ВЫНІК... ПАМЯНЯЕЦЦА?

**Народны артыст Беларусі, кампазітар, стваральнік тэорыі творчых хваляў Эдуард Ханок** перакананы, што цікавасць да гэтага фестывалю ў народа яшчэ не згасла.

*"Хоць па тэорыі хваляў, якой я займаюся, ёсць такое паняцце як рэшткавая хваля,* — разважае Ханок. — *Гэта калі ўжо пройдзены пік і далей усё рухаецца проста па інерцыі. Вось прыкладна ў такім стане, на мой погляд, і знаходзіцца зараз гэты фестываль.*

*Шчыра кажучы, некаторыя рэчы ў арганізацыі "Славянскага базару" мне незразумелыя. Напрыклад, чаму ён праходзіць толькі пад аркестр Фінберга? Пры ўсёй маёй глыбокай павазе да музыкаў і самога Міхаіла Фінберга гэты аркестр, я лічу, не вельмі сучасны. Ён выдатны, высокапрафесійны, але перш за ўсё ён джазавы, а джаз і папса — цалкам розныя рэчы. Я калісьці ездзіў на адзін конкурс у Польшчу, дык там выступаў аркестр, у якім было дзве рытм-групы: адна — для джазавага выканаўцы, а другая — для папсовага. У нас такога няма.*

*Па маім адчуванні, Прэзідэнцкі аркестр пад кіраўніцтвам Віктара Бабарыкіна нашмат больш зразумелы і сучасны.*

*Заканчэнне на стар. 8*

# КУЛЬТУРА ПАДЗЯМЕЛЛЯ

Метро — неад'емная частка любога мегаполіса. Менавіта тут раніцай і ўвечары, падчас усеагульнай мітусні, найбольш бачны хуткі тэмп гарадскога жыцця, піша nn.by.

Тут лёгка вылучаюцца розныя тыпы людзей: па-першае, гэта «пасажыр-выхавальнік» — у кожным вагоне заўсёды знаходзіцца чалавек, які «падкажа і намякне», як каму стаць, каго прапусціць, дзе выйсці і куды пайсці; другі тып — «пасажыр-спартовец» — звычайна той, каму кудысьці трэба болей за астатніх. Менавіта ён «падразае» ўсіх падчас спуску на эскалатары і наступае вам на чыстыя чаравікі, калі хоча падысці бліжэй да дзвярэй. Трэці таксама вельмі цікавы — «вечны студэнт»: той хто заўжды перашкаджае іншым сваёй велізарнай торбай і пры гэтым ніяк не рэагуе на заўвагі, бо папросту не чуе іх праз шум і музыку, якія зліваюцца ў адзін незразумелы гоман. Апошні — «пасажыр-канфарміст». Ён моўчкі стаіць і чакае, калі ўсё гэта нарэшце скончыцца.

**МЕТРО МОЖА БЫЦЬ ПАКАЗЧЫКАМ РАЗВІЦЦЯ КРАІНЫ І ЯЕ КУЛЬТУРЫ Ў ЦЭЛЫМ.**

Паказчыкам даволі спрэчным, але ж... Напрыклад, у далёкім 1863-м, у час, калі непрызнаны герой Беларусі Каліноўскі змагаўся супраць ненавіснага рэжыму, у Лондане была адкрыта першая лінія метро. Натуральна, што нам было не да гэтага: шляхта ратавалася, сяляне выжывалі, а потым зноў пачаліся



войны. Нарэшце ў 1984 годзе мы перасталі зайздросціць ангельцам, бо пабудавалі ўласнае метро. І зрабілі гэта раней за Штутгарт (1985), Валенсію (1988), Лос-Анджэлес (1993), Варшаву (1995) і нават Стамбул (2000). Савецкі Мінск развіваўся, адной галіны ад «Інстытута культуры» да «Маскоўскай» ужо не хапала, і ў пачатку 1990-х з'явілася другая лінія. Будаўніцтва яе, а менавіта станцыі «Няміга», да гэтага часу не дае спакою мінскім гісторыкам і археолагам. Гэтая станцыя амаль што сантыметр у сантыметр легла на старажытную ўязную браму Менскага замчышча. Сёння мы маем ужо 23 станцыі і за «ноў-хаў» лічым наяўнасць ліфтаў для людзей з абмежаванымі магчымасцямі на шасці з іх. На вялікі жаль, гэта і ёсць паказчык развіцця нашай краіны сёння.

**НАЗВЫ 13 З 23 МІНСКІХ СТАНЦЫЙ МОЖНА СУСТРЭЦЬ І ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ.**

Станцыі «Кастрычніцкая», «Спартыўная», «Трактарны завод», «Пралетарская», «Першамайская» і г.д. ёсць амаль ва ўсіх краінах СНД. Зразумела, што гэта «лагічная» спадчына савецкага мінулага, але ўсё роўна лічба вялікая. Для параўнання: у Кіеве 36 станцый з 50 маюць унікальныя назвы, у Харкаве — 14 з 25. Чамусьці мы не жадаем даваць сваім вуліцам і станцыям гучныя беларускія імёны.

**АДЗІНАЕ РАДУЕ: ПАКУЛЬ МЫ ЧУЕМ І БАЧЫМ У МЕТРО РОДНУЮ МОВУ.**

Шакавальным «сюрпрызам» было з'яўленне рускамоўных аб'яваў зімой гэтага года. Аднак мінчукі, у тым ліку вы, паважаныя чытачы «Нашай Нівы», паказалі сваю неабыякавасць да гэтага пытання. І цяпер мы, як і раней, чуем звычайныя аб'явы, запісаныя голасам Уладзіміра Баклейчава.

Спадзяемся, што так будзе і далей. А таксама на тое, што станцыі 3-й лініі метро, якую збіраюцца адкрыць у 2017 годзе, атрымаюць прыгожыя назвы, што прапанавалі мінчукі. Дарэчы, ужо вядома, што на мапе з'явяцца «Слуцкі гасцінец», «Немаршанскі парк» і «Кавальская слабада». Гучыць прыгожа. Мабыць, калінебудзь мы будзем ехаць да станцыі В. Быкава, каб потым перайсці да Гарадзецкай лініі — але гэта ўсё потым. А пакуль сочым за культурай мінскага падзямелля.

**АНДРЭЙ МАКАЁНАК**

# ГОРКАЯ ПРАЎДА ДЛЯ ЎЛАДЫ І АПЫЗІЦЫІ

**Падчас новага ўсплёску рэпрэсій супраць незалежных журналістаў, партый, прафсаюзаў і праваабарончых арганізацый "Тут і цяпер" вырашыла задаць некалькі пытанняў аднаму з самых вядомых людзей у Магілёўскім рэгіёне — Уладзіміру Краўчанку, старшыні Магілёўскага праваабарончага цэнтра.**




*Звычайныя рэчы для ўлады і апазіцыі*

**— Чаму ўлада не закрывае ваш цэнтр?**

— Мяркую, таму, што няма дакладнага загаду на гэты конт. Я не збіраюся пранікаць у патаемныя пачуцці і думкі адпаведных прадстаўнікоў нашай улады, якія курыруюць (так у іх лічыцца) дзейнасць такіх суполак, як наша, але ўпэўнены, што справа менавіта ў гэтым. Хацелася б адказаць на гэтае пытанне такім чынам: маўляў, "нас не так лёгка ўзяць", "мы таксама ведаем законы", "пасля нашай ліквідацыі яшчэ больш узмоцніцца напружанне ў стасунках з Еўропай". Але адказ мой будзе больш рэальным. Іншая справа, што мы будзем гатовы працягваць сваю справу і ва ўмовах, калі ўлада абвесціць нам адкрытую вайну альбо нават ліквідуе афіцыйна. А такое ўжо адбывалася, так што пэўны досвед ёсць.

Мы ж, дарэчы, і цяпер працуем напалову афіцыйна, бо офіс фармальна не аформлены. Больш як год доўжацца перамовы з мясцовай уладай на гэтую тэму. Мы прапаноўваем памяшканне, узгодненае з уладальнікам, а вось з камунальнай службай Ленінскага раёна і вышэйстаячымі інстанцыямі дамовіцца не ўдаецца. На гэтай падставе і абласное ўпраўленне юстыцыі не зацвярджае адпаведныя змены ў нашым Статуце. Такім чынам, наша суполка знаходзіцца ў "падвешаным стане", якія можа быць скарыстаны ўладай у любы момант. Значыць, фармальная нагода для непалітычнай ліквідацыі МПЦ ёсць. Хачу, праўда, уладу супакоіць: праваабаронца — не прафесія, а наканаванне і стан душы. Ніякая ўлада не зможа распаўсюдзіць свой уплыў на гэтыя якасці і праявы. Таму мы верым у працяг сваёй дзейнасці.

> "Хоць нашы змагары за агульную справу на працягу дзесяцігоддзя ніяк не могуць дамовіцца паміж сабой, маючы аднолькавыя мэты, супольныя рэсурсы, падобныя метадыкі працы, а нярэдка і адзіныя штабы з цэнтрамі".

**— А можа мы занадта ўсё зваливаем на ўладу? Мо на дадзены момант актуальны і такія праявы, як апазіцыйная лянота, палітычнае няўменне, юрыдычная абыякавасць да праблем асобных пакрыўджаных уладай?**

— Канешне. Праўда, мы як праваабаронцы стараемся трымацца крыху збоку ад усіх іншых сектараў і асяродкаў грамадскай актыўнасці (хаця ў рэальных беларускіх умовах гэта і надзвычай цяжка). На рэгіянальным узроўні ў розных апазіцыйных арганізацыях адзначаецца пэўная фанабэрыя і самаўпэўненасць, якія шкодзяць агульнай справе, а нам, праваабаронцам, так проста ствараюць найцяжэйшыя ўмовы для працы. Нярэдка мала хто з тых апазіцыйных структур не паклапоціцца загадзя пракансультавацца ў МПЦ, каб пазбегчы падзення на роўным месцы, не згубіцца ў трох соснах, не пакінуць чалавека сам-насам з праблемай… А з іншага боку існуюць прэтэнзіі і да нас: маўляў, мы стаім у баку ад "агульнай справы". Хоць нашы змагары за агульную справу на працягу дзесяцігоддзя ніяк не могуць дамовіцца паміж сабой, маючы аднолькавыя мэты, супольныя рэсурсы, падобныя метадыкі працы, а нярэдка і адзіныя штабы з цэнтрамі. Мы ж ні з кім "дамаўляцца" не можам. Мы абаронцы права і законнасці як у шырокім, так і ў вузкім сэнсах. Наш аб'ект — пакрыўджаны ўладай чалавек, калі так можна сказаць. У якасці прыкладу такой вось канцэптуальнасці магу спаслацца на справу бабруйскіх анархістаў, адзін з якіх адбывае пакаранне за нанясенне шкоды офісу КДБ і хуліганскія праявы ў адной з магілёўскіх турэмных зон. Мы баронім яго ад неадэкватнасці пакарання. Мы не спачуваем анархісцкім ці іншым радыкальным праявам (як і не асуджаем іх адмыслова, каб не рызыкаваць сысці са свайго праваабарончага шляху). Мы абараняем правы чалавека ў частцы забеспячэння канстытуцыйных гарантый для кожнага чалавека незалежна ад яго палітычных ды іншых поглядаў.

> "І станоўчыя перамены ў нас пачнуцца ніяк не раней за той момант, калі праўду пачнуць чуць і ўлічваць у працы і планах, у рашэннях і дзейнасці як адны, так і другія. Як апазіцыя, так і ўлада".

**— Такі час, калі гэта будзе гарантавана ўсім, прыйдзе да нас хутка?**

— Ды, пэўна, не. Але гэта не значыць, што яго не трэба набліжаць усімі намаганнямі. Мы тут займаем мо і не самае прыкметнае месца, але сумленнае і свядомае. І будзем гэтага трымацца. Неўзабаве пачнецца парламенцкая выбарчая кампанія. Не пытайцеся ў мяне, на чым я баку — байкоту ці ўдзелу. Мы будзем рыхтавацца, як і раней, да сумленнага і ўважлівага назірання за ўсімі этапамі і крокамі выбарчай кампаніі і да такой жа ацэнкі, выключна на фактах. У іншым выпадку ўлада ўжо сёння можа абвясціць сябе пераможцай, а апазіцыя — сябе. Толькі пазней, сабраўшыся на плошчы. Насамрэч, праўду будзем ведаць мы… І станоўчыя перамены ў нас пачнуцца ніяк не раней за той момант, калі праўду пачнуць чуць і ўлічваць у працы і планах, у рашэннях і дзейнасці як адны, так і другія. Як апазіцыя, так і ўлада.

**ГУТАРЫЎ ВІКТАР ВОЙТ**

**ДА ВЕДАМА**

**Магілёўскі праваабарончы цэнтр быў створаны 16 год таму. Перажыўшы некалькі ўнутраных узрушэнняў (асабліва заўчасную смерць яго заснавальніка Сяргея Абадоўскага ў 2003 годзе), ён працягвае эфектыўна абараняць пакрыўджаных уладай жыхароў абласнога цэнтра. Цяпер у яго ўваходзяць 17 чалавек.**

# “СЛАВЯНСКАМУ БАЗАРУ” ПАТРАБУЕЦЦА РЭБРЭНДЫНГ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 6*

*Яшчэ раз падкрэсліваю, што кажу гэта пры ўсёй сваёй вялікай павазе да Фінберга і яго аркестра.*

*Што тычыцца папулярнасці фестывалю, то, разумееце, якая штука... Маладосць не бывае бясконцай. Так і гэты конкурс. Я не хачу сказаць, што ён сваё ўжо адыграў — ні ў якім разе! Але падыходы трэба мяняць, каб не застойвацца.*

*Калі казаць пра папулярнасць, то мне здаецца, што цікавасць да гэтага фестывалю ў народа яшчэ не згасла. І гэта падзея ўсеСНДоўскага маштабу”.*

Эдуард Ханок — часты госць “Славянскага базару”, але ў гэтым годзе ў Віцебску яго, хутчэй за ўсё, не будзе.

*“Пакуль не планаваў ехаць на фестываль, — гаворыць ён. — У мяне з'явіўся любімы танцавальны ансамбль, над якім я ўзяў шэфства, і прыкладна ў гэты ж час мы з “Палескай зорачкай” едзем на фэст “Чунга-чанга”, які адбудзецца там, дзе Чайкоўскі пражыў рэшткі сваіх дзён, — у вёсцы Фралоўскае пад Клінам Маскоўскай вобласці. А 9 жніўня мы плануем выступіць у храме Хрыста Збавіцеля ў Маскве, так што клопатаў і запатрабаванасці ў мяне хапае”.*




## БЕЗ КАРДЫНАЛЬНЫХ ЗМЕН НІЯК!

**Спявак, гітарыст і кампазітар Алег Хаменка** адразу называе сем пунктаў рэарганізацыі “Славянкі”.

*“Згодна з сучаснымі тэхналогіямі менеджменту, кожныя 6–8 гадоў фэст павінен мяняць свой фармат, у тым ліку абнаўляць творчую каманду, інакш адбываюцца застойныя з'явы і цікавасць да мерапрыемства, яго камерцыйная паспяховасць надта зніжаюцца,* — гаворыць Хаменка. — *А за апошняе дзесяцігоддзе змены ў фармаце “Славянскага базару” былі малазаўважнымі, таму стаўленне да яго будзе пагаршацца.*

*Аднак, здаецца, у 2003 годзе неяк абнавіўся конкурс маладых выканаўцаў, і хоць там было шмат спрэчных момантаў, гэта пайшло на карысць фэсту.*

*Да таго ж два гады таму была распаўсюджана інфармацыя пра конкурс на новую канцэпцыю “Славянскага базару”. Я прапанаваў сваім студэнтам у межах курсавых работ прадставіць уласную стратэгію развіцця гэтага фэсту. Прапановы былі прыкладна наступнымі.*

- *Змена легенды фэсту — віншаванне, узнагароды прадстаўнікоў 14 славянскіх краін, якія дасягнулі поспехаў у прапагандзе папулярнай (нацыянальнай) культуры.*
- *Адзначэнне ўнёску прадстаўнікоў 14 славянскіх краін у сусветную культуру.*
- *Скарачэнне канцэртных праграм да 2-3 дзён.*
- *Правядзенне канферэнцый спецыялістаў па славянскім мастацтвазнаўстве.*
- *Прамыя рэпартажы аб цэрымоніі ўзнагароджання пераможцаў па дзяржтэлеканалах 14 славянскіх краін.*
- *Рэбрэндынг цяперашняй назвы фэсту ў “Славянскі кірмаш”.*
- *Прапаганда Рэспублікі Беларусь як калыскі славянскай культуры.*

*Такія змены і на мой погляд былі б вельмі карыснымі для нашай краіны і сталі б лагічным працягам састарэлай канцэпцыі “трыадзінага братэрства”, якая выкарыстоўвалася раней. Ад сябе дадам: "конкурс выканаўцаў" трэба захаваць, але зусім неабавязкова праводзіць яго на галоўнай сцэне.*

*Па выніку: такі фэст надта патрэбны нашай краіне, але з-за таго выгляду, у якім мы яго сёння назіраем, ідэя магутнага музычна-культурнага міжнароднага фэсту ў Рэспубліцы Беларусь дэвальвуецца”.*

**МАРЫНА МІТ**

**НАПЯРЭДАДНІ**

## «БУРАНАЎСКІЯ БАБУЛІ» ПРЫЕДУЦЬ НА «СЛАВЯНСКІ БАЗАР»

Яны, паводле слоў гендырэктара цэнтра культуры «Віцебск» Радзівона Баса, прымуць удзел у канцэрце ўрачыстага адкрыцця XXI Міжнароднага фестывалю мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску”.

На галоўным канцэрце “Славянскага базару” таксама выступяць Ірына Алеграва, Валерыя, Леў Лешчанка, Аляксандр Рыбак і іншыя.

У конкурсе выканаўцаў эстраднай песні “Віцебск” будзе спаборнічаць 21 артыст. Беларусь на конкурсе прадставіць 23-гадовы Яўген Доліч, Расію — 22-гадовая Настасся Казлова, Украіну — 29-гадовая Галіна Конах. Журы конкурсу ўзначаліць кампазітар Максім Дунаеўскі.

Міжнародны фестываль мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску” адбудзецца з 12 па 18 ліпеня.Фестываль праходзіць пад патранатам А.Лукашэнкі.

Кошт квіткоў на фестывальныя мерапрыемствы складае ад 20 да 750 тысяч беларускіх рублёў.



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 08.06.12
Тыраж 299 экзэмпляраў